Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 28 студзеня 1933 г.

№ 3.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў
у буднія дні ад 10 да 12 г. раніцай.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

* * *

Растуць пытаньні ўночы,
А ў сэрцы — нейкі сум.
Глядзіць бяссоньне ў вочы
І ткуцца кросны дум.

І хочацца праверыць
Ўсю моц і гарт душы,
Нанова перамерыць
Дарожкі і шляхі.

Заблуталісь сьцяжыны;
Мы блудзім ў нейкай мгле.—
—Да нас!—крычыць кажны,
А сам — насьлепа ідзе...

На нейкім раздарожжы
Спыніліся усе.
Дык, думаеш, паможа
Адзін другому? — Дзе!

Аж пенімся ад сваркі —
Шлях кожны хвалім свой;
Гнучы пакорна каркі,
Ракламім самастой...

Эх, роднае балота!
Навокал, як ні глянь,
Шляхі нашы маркотны,
Ці іх хвалі, ці гань.

Найгоры цяжка ўночы,
Як ткуцца кросны дум.
Глядзіць бяссоньне ў вочы,
Ў душы — пытаньняў сум...

Гэй вы!
Не генаралы і не міністры —
Браты,
Каму ня сьпіцца сёньня ўночы,
Давайце, злучымся і ўзбыстрым
Наш рытм працоўна-творчы!

Браты!
Хто малады,
Ў каго ў грудзёх агонь вулканам
І верай сьвецяцца зарніцы,
Давайце ўсе да працы станем!
Вам хопіць сіл!
Ў амут жыцьця — назад ня глянем:
Там толькі сварак нашых гніль
Ды сон стагодзьдзяў сьніцца.

М. Машара.

## Зламаць лёд!

У гутарках з прадстаўнікамі вёскі, у пісьмах і карэспандэнцыях, прысыланых сялянскімі дзеячамі, чырвонай ніткай праходзіць жальба ва адну балячку нашага жыцьця, якая—быццам лёд — сковывае кожную ініцыятыву на грувьце беларускае культурнае працы. Балячка гэтая — запалоханасьць, прыгнечанасьць нашага сялянства, якое дайшло сяньня да таго, што баіцца ўсяго, што мае на сабе беларускую пячатку.

Гэты стан мае свае падставы. Ен вытварыўся ў выніку таго, што падчас усялякага роду „ліквідацыяў" уладамі палітычных арганізацыяў шмат перацярпелі і тыя культурныя ўстановы дый працаўнікі, якіх — слушна, ці няслушна — падводзілі пад катэгорыю „палітыкаў". Сярод агентаў улады на мясцох часта панаваў пагляд, што наагул усякая беларуская дзеяльнасьць ёсьць „палітыка", з якой трэба змагацца. Дык ня дзіва, што навет людзі, якія абсалютна нічога супольнага з палітычнай працай ніколі ня мелі, баяцца рабіць тое, на што маюць поўнае права, што забясьпечана законамі дзяржавы і падставай іх—канстытуцыяй.

Ясна, што гэту баязьнь трэба за ўсялякую цану разьвеяць. Трэба пераканаць вёску, што беларускую культурную працу і можна і трэба рабіць. Трэба паказаць ёй на дзеле, а ня толькі на словах, што і ў сучасных варунках можна без баязьні арганізоўваць чыста культурныя ўстановы, закладаць бібліатэчкі-чытальні, ладзіць культурна-асьветныя гурткі, спэктаклі, вечарыны, арганізоўваць курсы граматы, чытаць лекцыі на культурна-асьветныя тэмы і гэтак далей.

Ведама, магчымы выпадкі, што цераз меру руплівыя агенты ўлады будуць і гэткім пачынаньням рабіць перашкоды. Тая варожасьць да ўсяго беларускага, якую бачым у нацыяналістычна настроенае часткі польскага грамадзянства, зусім натуральна перадаецца і ідэйна блізкім да гэтае часткі адміністратарам. І вось, калі-б гэткія выпадкі здараліся ў адносінах да тых пачынаньняў, якія прапагуе апалітычная арганізацыя Т. Б. А.,

дык на іх цэнтраля Т. Б. А. будзе заўсёды належным спосабам рэагаваць па атрыманьні вестак з мейсц. Аб такіх выпадках нельга маўчаць навет і тады, калі б мела месца нейкае непаразуменьне: кожын выпадак трэба асьвятліць і выясьніць даканца, кожны сумлеў—разьвеяць.

Мы мусім нашы нацыянальныя правы рэалізаваць на дзеле. Калі запалоханая сяньня вёска пабачыць гэта, калі пераканаецца, што ёсьць магчымасьць весьці беларускую культурна-асьветную работу, не баючыся рэпрэсіяў, дык і той лёд, што замарозіў усякую ініцыятыву на мясцох, сам сабой растае.

Т. Б. А. адмежавалася ад усялякае „палітыкі". Т. Б. А. працуе выключна над паднясеньнем культурнага роўня нашага сялянства. І дзеля гэтага Т. Б. А. сьмела і адкрыта прыступае да ламаньня гэнага лёду баязьні, сумляваньня, недаверу, на які наракаюць згодна ўсе, хто вядзе хоць-якую культурную акцыю на вёсцы. Калі гэтае заданьне новаму таварыству выпаўніць удасца, дык для беларускае культурна-нацыянальнае працы сярод нашых сялянскіх масаў створацца ізноў шырокія магчымасьці, і вёска наша пачне сваімі сіламі вызваляцца ад тае цемры, п'янства, зьдзічэньня, што так паношацца ў ёй сягоньня, забіваючы ў селяніна пачуцьцё чалавечае і нацыянальнае годнасьці.

## З царкоўна-рэлігійнага жыцьця.

Ніхто ня будзе пярэчыць факту агульнага заняпаду рэлігійнага жыцьця ў нашым народзе, асабліва сярод праваслаўнага насяленьня краю. Прычына гэтага зьявішча цалком, здавалася-б, высьветлена гісторыяй царквы і дзяржавы ў царскай Расеі. Царква тамака ня мела ані волі, ані павагі, ані сілы ў народзе дый зусім не працавала над узгадаваньнем душ, сільных пачуцьцём сваей высокай годнасьці чалавека, як сына Божага. Наадварот — царква, „папаўшая ў параліж" (знамянітыя словы Дастаеўскага, родам беларуса), зрабілася як быццам „дэпартамантам міністэрства ўнутраных спраў", памагала панаваўшэму ў Расеі паліцэйскаму ладу рабіць з веруючых рабоў, дый ня толькі Божых, але перад усім рабоў чалавечых. На нашых беларускіх землях расейскае духавенства спаўняла да таго-ж яшчэ „русіфікацыйную задачу" Масквы, нясучы народу Слова Божае ў чужой для яго вуха і сэрца мове. Ясна, што ў выніку такога вонкавага і ўнутранага скажэньня навукі Слова Божага яно папросту не даходзіла да сэрца, да душы народнай. Цэлыя пакаленьні ўзгадоўваліся на нейкім паўпаганскім „абрадаверыі", прывыкаючы толькі да формы і буквы свайго афіцыяльнага „вызнаньня", але не адчуваючы блізу зусім унутранага ўплыву ўздымаючае душу сілы, якая зьмяшчаецца ў Слове Божай Ісьціны-Праўды.

Запраўдны зьмест рэлігіі, якая павінен узвышаць чалавека, весьці яго да бязьмежнага дасканаленьня маральнага і інтэлектуальнага (умысловага), гэты зьмест запраўднае рэлігіі астаўся блізу цалком няведамым шырокім масам нашага сялянства. Бо-ж ведама, паліцэйскі лад заўсёды баіцца пашыраць сьведамасьць гэтага запраўднага зьместу рэлігіі. Чаму? Ясна-ж чаму. Бо ў гэтым бога-чалавечым самапачуцьці чалавека, як у цудоўным зярняці, крыецца ўвесь далейшы няўхільны ўзрост чалавечага, грамадзкага і нацыянальнага самапачуцьця і самапашаны чалавека. У „Слове" Эвангельля як быццам схаваны ўвесь зьмест таго, што цяпер завецца „канстытуцыйнымі гарантыямі", ці „правамі чалавека і грамадзяніна" ў сучасных праваных дзяржавах. І гэта сьцьвярджае цалком навет фактычная гісторыя „дэклярацыі проў", якая спарадзаліся ў хрысьціянскіх, настроеных рэлігійна грамадах Паўночнае Амэрыкі.

Есьць і іншая „небясьпека" ў Слове Божым, якое выразна бярэ ў абарону беднага проці багатага, пярэчачы і тут сучаснай „дзяржаўнасьці", калі яна бароніць багатага і сытага проці галоднага і беднага. Ведама-ж, што Слова Божае ёсьць таксама варожае да ўсялякае дэмагогіі, якая „проста" радзіць беднаму аграбіць ці забіць багатага. Слова Божае вучыць, як здабыць запраўднае багацьце, запраўдную волю, сілу душы і цела, пры якіх усялякае іншае багацьце само „прыложыцца" чалавеку.

Дык вось, фатальная доля нашага народу ў тым, што ніхто, а праваслаўнае духавенства можа менш, як хто іншы, не парупіўся дагэтуль, каб памагчы яму тварыць і гуртаваць у сваей душы гэтае запраўднае багацьце — сілу і волю духа. Але не бяз віны ў гэтым вялікім праступленьні проці нашага народу і каталіцкае духавенства нашага краю, якое ўсё-ж наагул больш уважна і сумленна выконывала свой абавязак рэлігійнага ўзгадаваньня каталіцкага яго насяленьня. Паміма таго, што польскі каталіцкі клір усьцяж рабіў так сама палітычную — польскую дэнацыяналізуючую працу сярод беларускага народу, перарабляючы беларусоў на „палякоў", ён блізу галоўнай сваей задачай лічыў ня столькі позытыўную рэлігійную работу над душамі каталікоў, сколькі нэгатыўную работу над душамі праваслаўных, кампрамітуючы ў іх слабой рэлігійнай сьведамасьці вартасьці іх веры. Каталіцкія ксяндзы часта і цяпер робяць галасна і адкрыта заявы з касьцельнае амбоны аб тым, што праваслаўе — не хрысьціянства, акурат, як рабілі гэта ў царскія часы „царкоўныя" выданьні нашых „пачаёўцаў" і мураўёўцаў — адносна да каталіцкае веры. Але, бэсьцячы ўзаемна веру адзін аднаго, і ксёндз і сьвяшчэньнік аднолькава падрывалі ў народзе самыя псыхолёгічныя падставы рэлігіі, падрывалі веру ў царкоўную навуку, давер да павагі служыцеля царквы наагул...

Усё гэта трэба цяпер папраўляць —

у часы, калі паваенная зьдзічэньне запанавала блізу на ўсім сьвеце, навет сярод народаў без параўнаньня культурнейшых, чым наш народ беларускі.

Толькі што міністар Вызнаньняў і Асьв. ў сваей апошняй прамове пам'ж іншым казаў аб канешнасьці „падняцьця інтэлектуальнага і маральнага роўня праваслаўных сьвяшчэньнікаў“. Але — першым варункам дзеля ўплыву іх на народ ёсьць тая блізкасьць да народнае душы, якую дае нацыянальная і культурная роднасьць іх з народам: супольная з ім мова. Дык міністар сам не павінен польшчыць праваслаўных сьвяшчэньнікаў у польскіх праваслаўных сэмінарыях і на багаслоўскіх факультэтах, рабіць іх можа праз гэта „бліжэйшымі“ да польскае „рацыі стану“, але далейшымі і чужымі беларускаму народу. Сам урад павінен аблягчыць носьбіту Слова Божага падыход да народу — выключна ў мэтах рэлігійнага ўзгадаваньня, не накідаючы яму ўсялякіх іншых мэтаў і задачаў. Першая-ж і запраўдная мэта рэлігійнага ўзгадаваньня народу — не „інтарэсы дзяржавы“, не „рацыя стану“, але — сама рэлігія, само Слова Божае. Дзеля іх і трэба насьцеж расчыніць народную душу — роднай мовай. Эс.

# Што нясе з сабой будучая вайна?

Ведамы венскі доктар Рызэ зрабіў публічны даклад аб тым, чым пагражае чалавецтву будучая вайна.

Як бы не абмежывала Ліга Нацыяў ці разбраенчая канфэрэнцыя лічбу і роды збраеньняў, будучая вайна будзе пераважна, калі ня выключна, вайной у паветры. Дзеля таго ніякія фронты, ні акопы, ні крэпасьці ні навет арміі і водныя флёты рашучага значэньня ў ёй мець ня будуць. Першае і апошняе слова будзе належаць да паветранага флёту, для якога няма ані граніцаў, ані акопаў, ані іншых перашкодаў. Ужо цяпер вялікія дзяржавы лічаць ваенныя аэрапляны тысячамі. Але кожная з іх мае апроч таго гэтулькі-ж, калі ня больш, аэрапланаў „цывільных“, якія ў часе вайны будуць таксама пушчаны ў ход. Ужо цяпер рыхтуюцца на патрэбы будучае вайны бомбы, кіданыя з самалётаў, вагой звыж 2.000 кіляграмаў. А ваенныя хімікі аблічаюць, што адна бомба, маючы 1000 кілё сучасных выбуховых матэрыялаў, павінна адным урагапавым рухам паветра ад выбуху зьніштожыць усіх людзей на 600—800 мэтраў ад месца выбуху. Аблічана, што эскадра з нейкіх 70 самалётаў, высланых на Парыж ці Бэрлін, можа скінуць на места 35.000 бомбаў, якія, апроч беспасярэдніх ахвяраў і руінаў, могуць выклікаць у месьце ня менш 6.000 пажараў, якія кінуць вялізарнае места ў поўны хаос, бо тушыць пажары перашкодзяць разьлітыя бомбамі душачыя і труцячыя газы. Людзі папросту мерлі-б, як мухі ў пакоі, дзе распылены арагац.

З гэтага жудаснага абразу будучае вайны відаць, што яе ахвярамі будуць не арміі, але безбаронная мірнае цывільнае насяленьне краінаў, кіненых у вайну. Ці ж, ведаючы ўсё гэта дакладна наперад, палітычныя праваднікі і кіраўнікі народаў знойдуць у сябе адвагу ізноў кінуць іх у прорву новае вайны, якая будзе для іх запраўды сьмяротнай?

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб прыгатаўленьні кармоў для жывёлы.

(Працяг)

Сачыстыя кармы. Да гэтае групы кармоў належыць зялёная трава, буракі, морква, рэпа, бульба, сіласаваныя кармы і інш.

Зялёная трава, калі маладая, ёсьць лёгкастраўным кормам і добра ўплывае на здароўе жывёлы. Спажывае гэты корм жывёла часьцей на пасьвішчы, а калі ён даецца і ў хляве, то асаблівага падрыхтаваньня не вымагае, хіба што бывае патрэба парэзаць яго і зьмяшаць з іншым кормам. Адно толькі тут трэба адзначыць: што зялёнага корму, сагрэўшагася ў кучах або мокрага, жывёле ня можна даваць. Таксама трэба быць асьцярожным пры кармленьні рагатае жывёлы маладой зялёнай канюшынай ці люцэрнай, бо ад такога корму кароў часта пушыць.

Далей да групы сачыстых кармоў належаць карэньплоды, якія маюць шырокае тасаваньне ў паступовых гадаўляных гаспадарках. Вартасьць іх у тым, што яны ў часе зімы замяняюць жывёле зялёны корм. Спажываючы іх, жывёла атрымлівае шмат соку і вялікую колькасьць мінэральных соляў і цукру або крахмалю. Апрача гэтага, карэньплоды маюць дадатнае дыэтэтычнае значэньне, — дзеюць асьвяжаюча на арганізм жывёлы. Аднак, спажываньне іх у вялікай колькасьці часта выклікае парухі ў траўленьні. Вялікіх порцыяў карэньплодаў нельга жывёле даваць і дзеля таго, што ў іх замала бялку, а калі жывёле ў корме не хапае бялку, то гэты корм жывёлаю кепска выкарыстоўваецца. Найбольш карэньплоды ўжываюцца на корм вялікай рагатай жывёле. Некаторыя з карэньплодаў, як буракі, морква, рэпа, зьяўляюцца малакагоннымі кармамі. Да сырых карэньплодаў жывёлу трэба прызвычайваць, даючы іх спачатку ў невялікай колькасьці і паступова павялічваючы да поўнай нормы.

Усе карэньплоды, перад тым, як маюць быць паданы жывёле, мусяць быць абавязкова добра вымыты, інакш могуць выклікаць розныя забурэньні ў жываце, што часта канчаецца і паважнымі хваробамі.

Найлепш даваць жывёле карэньплоды цэлымі, або пакроенымі на вялікія кавалкі.

Карысьць ад кармленьня цэлымі карэньплодамі выяўляецца ў тым, што пры такім спосабе жывёла мусіць даўжэй раскусоўваць і жаваць іх, дзякуючы чаму выдзяляецца шмат сьліны, якая спрычыняецца да лепшага траўленьня.

Некаторыя гаспадары трымаюцца тае думкі, што для коней і сьвіней лепей карэньплоды даваць зварыўшы. Тымчасам спэцыялісты сьцьвярдзілі, што сырыя карэньплоды могуць зашкодзіць сьвіньням толькі тагды, калі іх даюць шмат на адзін раз і то, калі сьвіньні не прызвычаены да сырога корму. Што ж тычыцца коней, то ім наагул даюцца карэньплоды ў абмежанай колькасьці (не больш 5 кіляграмаў) і то паступова прызвычайваючы іх да гэтага корму. Невялікія колькасьці карэньплодаў вельмі дадатна ўплываюць на здароўе коней.

Толькі мёрзлыя або надпсутыя карэньплоды нельга інакш скармліваць, як зварыўшы іх.

З іншых сачыстых кармоў вялікае значэньне ў нас мае бульба. Для кармленьня малочных кароў яна мае меншае значэньне, бо не зьяўляецца кормам малакагонным, а спрыяе болей тучненьню. Бульба, ужываная на корм, павінна быць добра вымыта. Сырую бульбу жывёле можна даваць толькі ў абмежанай колькасьці — тады яна дзеець на арганізм асьвяжаючы і пабуджае апэтыт. Даючы-ж жывёле бульбу ў большай колькасьці, трэба яе варыць, бо ў вараным стане яна ня толькі ня шкодна для арганізму, але яшчэ лепей ім ператраўляецца. Пры варэньні крахмалевыя зёрны разбухаюць і лопаюцца, а гэтым самым становяцца болей прыступнымі для травячых сокаў. Апрача гэтага, пры кармленьні бульбай ня трэба забывацца, што яна мае ў сабе алькалёід салянін, які ў большых колькасьцях ёсьць атрутны для жывёлы. У часе прарастаньня бульбы гэтага складніку бывае найбольш, грамадзіцца ён галоўным чынам каля пункту росту, а дзеля гэтага карміць прарослаю бульбаю небясьпечна. Калі-ж дзеля тых ці іншых прычын прыходзіцца карміць жывёлу такою бульбаю, дык трэба паадкідаць усе расткі.

Існуе яшчэ асаблівы спосаб загатаўленьня сачыстых кармоў, які ў нас нажаль мала пашыраны, — гэта заквашваньне або сіласаваньне кармоў. Заквашаны корм вельмі малакагонны. І там, дзе хочуць мець таны корм для малочных кароў, мусяць заняцца сіласаваньнем сачыстых кармоў. Заквашваць можна ўсякага роду сачыстыя кармы. Най лепшы сілас з зялёнага корму, але таксама карысна заквашваць і асыпныя расьліны, калі яны так ці інакш прыпсутыя і ня могуць даўжэйшы час перахоўвацца. Звычайнымі матэр'яламі для заквашваньня ёсьць: кукуруза, конскі зуб, бурачнае лісьце, сонешнік, лубін і інш. Расьліны багатыя на бялок, як канюшына, сэрадэля, сіласуюцца горш.

У вялікіх гаспадарках сіласуюцца кармы ў спэцыяльных будовах, „сіласах", але ў малых гаспадарках для гэтае мэты робяцца капцы надземныя, або ямы. Лепей, калі сьцены ямы выцэмэнтаваны. Выбіраючы мейсца пад яму, трэба ўважаць, каб блізка ня была грунтовая вада і каб грунт быў прапускны. Даўжыня ямы — адвольная, але

---

Таньчын.

# Мышыная любоў.

Тое, аб чым я хачу расказаць, пакажа, як навет у такіх, здаецца, „апошніх істотаў", як мышы, праяўляецца нешта падобнае да каханьня.

Гэта было вясной, калі ў дзень сонца цёпла грэе, але ўвечары яшчэ сільныя прымаразкі. Карыстаючыся дняўной цяплынёй, мы пакідалі адкрытай фортку вакна (бо вокны адчыняць было яшчэ зарана), а пад вечар, як паветра рабілася халаднейшым, зачынялі. Пасьля гэта выясьніла ўсю „мышыную любоў", але напачатку ўсё здавалася дзіўным. Мы ўжо ляжалі ў ложках. Ня спалася. Кожны быў пад уражаньнем нядаўняй сьмерці каханае маці, якое нядаўна здарылася ў нас — сьмерць каханае маці. Раптам па раме вакна нешта прасунулася. Малое. Чорнае. Мы заўважылі гэта, але не зьвярнулі асаблівае ўвагі. Калі аднак перасоўваньне „нечага" чорнага паўтаралася, намі апанаваў страх, а пасьля цікавасьць. Я прызнаюся, што першы раз у жыцьці так можа на хвіліну паддаў сумліву ўсе здабычы навукі, якой я сам так пільна аддаваўся. Але гэта было пэўны мамэнт. Пасьля я станоўча адкінуў усялякія „мэтэмпсыхозы" і пачаў „навукова" падыходзіць да зьявішча. І цікава! У меру збліжэньня каго-небудзь з нас да вакна, „нешта" чорнае спыняла свой рух. Урэшце мы апранулiся і ціхенька вышлі на двор. Але нічога на рамах ня было. Пастаяўшы крыху, мы плюнулі й пайшлі дамоў спаць. Але праз пэўны час мы ізноў ускочылі. Нязначны шолах за вакном і рух на раме пачаўся ізноў. Цікава было паглядзець, як мы сядзелі разам перапалоханыя і зьдзіўленыя гэтым „цудам на раме". Што гэта магло быць? — ламалі мы сабе галовы. Можа вужака? Але чаго яна поўзала-б, як дурная, па раме? Ды скуль вужакі ў месьце? Можа начная мыш? Але чаму-ж яна ўночы ня лётае? Можа птушка? Але скуль яна так сунецца па раме? Загадка была неразьвязаная. Мы ізноў ляглі, але аб сьне ня было й мовы.

Праз пэўны час шолах за вакном сьціх. Але пачалося другое зьявішча, якое аднак ня было надзвычайным. Па пакоі пачала бегаць мыш. Яна проста скакала на крэсла, стол. Ад думкі, што вось яна скочыць на мяне, я схаваўся з галавой пад коц. Але доўга ляжаць у гэткім стане, ясна, я ня мог. Мыш усё скакала й пішчала. Піск яе быў нейкі асаблівы й няпрыемны. Урэшце я, спацеўшы, схапіўся з ложка і пачаў вайну з

шырыня часьцей бывае каля паўтары мэтра. Корм павінен быць парэзаны і туга ўтоптаны ў яму, каб там не заставалася паветра. Накладаць яму трэба як хутчэй, не даўжэй 3 дзён. Пры накладаньні карысна корм скрапляць кіслым малаком, дзякуючы чаму хутчэй наступае малочнае кващэньне, вытвараецца шмат малочнага квасу, які і кансэрвуе корм. Калі яма наложана, тагды зьверху корм пасыпаецца сечкаю ці мякінай і засыпаецца зямлёю пластам каля 40 цэнтымэтраў і прытаптываецца. Упрацягу далейшых дзён трэба ўважаць, ці зямля над ямай не патрэскалася. Калі так, то зьявіўшыяся шчыліны трэба замазаць зямлёю. Такім спосабам уложаны корм за 6—8 тыдняў заквасіцца цалком, і можна яго ўжо тагды даваць жывёле.

С. А.

(Канец будзе)

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Бібліатэчная акцыя Т. Б. А.** Таварыства Беларускае Асьветы прыступіла да арганізацыі першае сэрыі намечаных бібліатэчак-чытальняў на правінцыі. У сувязі з гэтым былі выкліканы ў Вільню ў цэнтралю Т. Б. А. кандыдаты на кіраўнікоў бібліатэчак дляля атрыманьня неабходных інфармацыяў і інструкцыяў.

**Дапамога беларускім школьнікам.** З мэтай дапамагчы незаможным вучням і вучаніцам Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні — у гімназіяльнай салі (Вострабрамская 9) ладзіцца 11 лютага спэктакль з танцамі пасьля яго. Мае быць пастаўлена п'еса, дагэтуль у Вільні ня іграная.

Беларускае грамадзянства павінна грамадна пасьпяшыць на гэты вечар, які дасьць і маральнае здаваленьне публіцы, і выдатную помач незаможнай моладзі.

**Падвойны юбілей.** У сувязі з прыпадаючым сёлета 15-лецьцем існаваньня Беларускага Навуковага Т-ва і 300-лецьцем сьмерці слаўнага канцлера Вялікага Князьства Літоўскага Льва Сапегі, Урад Т-ва мяніцца склікаць урачыстае паседжаньне сваіх сяброў і запрошаных гасьцей у лютым месяцу. Адначасна мае адбыцца і штогодні агульны сход сяброў Бел. Навуковага Т-ва.

**Аўтарскі вечар.** Студэнцкае Т-ва Беларусаведы праектуе з'арганізаваць у бліжэйшым часе вечар, на якім бы беларускія поэты Заходняе Беларусі прачыталі свае найнавейшыя творы. Думку гэту трэба шчыра прывітаць, хаця яна й ня новая: у 1927 г. ў салі ТБШ быў з'арганізаваны гэткі-ж вечар, які прайшоў вельмі ўдатна.

---

мышай. Я схаваў усю ежу і знайшоў пасьля доўгага шуканьня мышалоўку. Пачакай-жа! — пападзешся ты, гадзіна! — падумаў я з злосьцю. Урэшце папалася піскуха-мыш, і я з трыумфам выкінуў яе на сходы, дзе былі аж тры ці чатыры каты. Чорт іх ведае, скуль яны назьбіраліся на нашым двары. Адзін асабліва быў несымпатычны, як дзікі. Я пэўны час хацеў яго „зглядзіць". Але цяпер я быў рады, што гэтага дзікога ката я аставіў у жывых, бо ён, здаецца, адыграў галоўную ролю ў „ліквідацыі" мышы.

Урэшце мы заснулі.

Зраньня мы прыняліся за працу над пакаваньнем рэчаў, бо меліся выехаць пасьля сьмерці маці ў іншае мейсца. І якое маё было зьдзіўленьне, калі я, перакідаючы ў кухні ўсялякае „барахло", знайшоў пад анучамі маладых, яшчэ не абросшых, чырвоненькіх мышанят.

Мне ўсё зрабілася ясным. І „цуд на раме" ўрэшце быў разгаданы. Справа выглядала гэтак. У нашай кухні завязалася мышыная любоў. „Ён" і „яна". Калі мы выходзілі з дому, мышы, пэўне, выходзілі крыху далей у пакоі і там сваволілі, закусываючы рознымі рэштками з стала. Яны пэўне-ж праныхалі і праход на сьвежае паветра — праз фортку, якая ў дзень была адчынена.

І вось у той дзень, як пачалося зьяўшча на раме, гэта й быў „ён". Вышаў „ён", пэўне, па нейкі гасьцінчык для дзяцей, а можа шукаў новае сядзібы для будучых „насьледнікаў". Але запозна вярнуўся. Фортка была ўжо зачынена. Не знайшоўшы праходу, „ён", пэўне, пайшоў шукаць іншае дарогі. „Яна" ў гэты час, пэўне, забаўляла „малых", чакаючы „яго". Але „ён" задоўга не вяртаўся. Тады „яна" ўзьняла „мышыны плач". Урэшце трагічна згінула ў мышалоўцы.

Я сьмяяўся з „цуду на раме", але адначасна мне было неяк шкода гэтых сіротак. Чаму яны ня маюць права на жыцьцё? — думаў я. Але ўсё-ж я іх выкінуў у сметнік. Іх было чатыры ці пяць.

Іх напэўна зьелі каты, а „дзікі" хіба дастаў найбольшую порцыю сьвяжыны, бо я бачыў, як ён грэўся на сонцы і аблізываўся.

---

**Бацькі!**

**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

**Польскі журнал аб беларусах.** У Вільні ўжо шаснаццаты год выходзіць у польскай мове двохтыднёвік „Przegląd Wileński" пад рэдакцыяй гр. Людвіка Абрамовіча. Гэты журнал стаіць на шчыра краёвым становішчы і горача бароніць інтарэсы нашага краю і насяляючых яго народаў. У № 1 гэтага году журнал удзяліў асабліва многа мейсца беларускім справам. Аб лёсе Тарашкевіча і яго ролі ў беларускім вызвольна-адраджэнскім руху гаворыцца ў цікаўнай стацьці Al. S. пад загалоўкам: „Białoruski Gandhi". Звярачае на сябе ўвагу і стацьця Ант. Навіны пад назовам „Idea niepodległościowa w poezji białoruskiej" (пачатак). Апошняя стацьця прадстаўляе скарочаны зьмест рэфэрату, прачытанага аўтарам на леташнім абходзе Сьвята Незалежнасьці Беларусі (25 сакавіка). Беларускім выданьням пасьвячоны і аддзел „Бібліографія".

Беларускаму грамадзянству варта бліжэй пазнаёміцца з гэтым часопісам, дзеля чаго падаем адрас яго Рэдакцыі: Wilno, ul. Sierakowskiego Nr. 21, m 6. Падпісная плата — 1 зл. 50 гр. з квартал.

## На правінцыі.

**Беларускі спэктакль.** (в. Шэні, Пружаншчына). На другі дзень праваслаўных Каляд (8. I. 33) мясцовым гуртком Т. Б. Ш. быў зладжаны спэктакль вечарынка. Пастаўлена была п'еса Ажэшковай „Хам" у перакладзе на беларускую мову. Публікі было шмат. Ігралі добра. Трэба адзначыць, што драматычная сэкцыя Шэняўскага гуртка Т. Б. Ш. выяўляе шырокую працу. Сябры сэкцыі, паміма таго, што заняты працай на полі, знаходзяць час на самаахвярную культурную працу. Сярод шэняўскіх артыстаў ёсьць навет паважныя тэатральныя сілы. Дзеля гэтага, як апошні спэктакль, так і папярэднія, стаўляныя навет у Пружане, здабылі посьпех сярод найшырэйшых слаёў насельніцтва. Сялянская моладзь акалічных вёсак ужо задоўга перад спэктаклем цікавілася гэткім важным культурным сьвятам. Навет некаторыя з самой Пружаны прыйшлі пехатой паглядзець ігру шэняўскіх артыстаў.

Жыве Беларусь! Вясковая інтэлігенцыя саматугам горнецца да асьветы і працы, ня гледзячы на перашкоды, якія стуляюцца ёй на кожным кроку. Староства забараніла стаўляць іншыя беларускія п'есы. Самы дазвол быў атрыманы незадоўга перад спэктаклем. Часта шэняўскія артысты змушаны прасіць дазвол аж у ваяводзтве. Шэняўскія артысты хай паслужаць прыкладам для іншых вёсак!

Шэнь.

Перачытаўшы газэту — перадай другому.

## Б. С. С. Р.

**З жыцьця Кампартыі Беларусі.** Як падае „Сав. Беларусь" з 7. I. 33, з Кампартыі Беларусі апошнім часам выкінута шмат сяброў. За што-ж іх выкідаюць? Для прыкладу дамо пару прозьвішчаў: Некрасаў—за утойваньне свайго соцыяльнага палажэньня, бо ён сын кулака, за зрашчваньне з кулацка-заможным элемэнтам і за зрыў палітычна-гаспадарчых кампаній на сельсавеце; У. Родзік—за сувязь з клясава-варожым элемэнтам, за злачынную безгаспадарнасьць у калгасе, за сабатаж лёну загатовак, за рэзбазарваньне калгаснай маемасьці і т. д. Цэлы рад прозьвішчаў з падробнай атэстацыяй сьведчыць аб тым, як жывецца навет... камуністам.

## У Літве.

**Спатканьне Новага Году.** Беларускае грамадзянства зладзіла сёлета першую супольную сустрэчу Новага Году ў нядаўна закладзеным клюбе сваім „Беларуская Хатка". Увечары 31 сьнежня быў пастаўлены спэктакль. Сіламі Беларускага Народнага Тэатру вельмі ўдала была адыграна п'еса „Міхалка". Пасьля быў прачытаны рэфэрат, пасьвячоны 125-лецьцю нараджэнаў В. Дунін-Марцінкевіча і 50-лецьцю Уладыслава Галубка, драматычнага пісьменьніка і кіраўніка Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру ў БССР. Пасьля рэфэрату артысты беларускія дэклямавалі творы Дуніна-Марцінкевіча і Галубка.

У часе супольнае вячэры таксама дэклямаваліся беларускія вершы і пяяліся беларускія песьні—хорам і соло.

Вечар навагодні шмат спрычыніўся да цясьнейшага аб'яднаньня ковенскіх беларусаў і надоўга астанецца ў памяці ўчасьнікаў сустрэчы 1933 году.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Бюджэт у камісіі Сойму.** Бюджэтная камісія Сойму працуе ўсьцяж. Разгледжаны каштарысы блізу ўсіх міністэрстваў. Пасьля дакладчыкаў выступалі паасобныя міністры з прамовамі высьвятляючымі працу і задачы іх міністэрстваў. Паміж іншым, міністар унутраных спраў Перацкі падчыркнуў, што „павінны быць у дзяржаве роўныя правы для ўсіх", калі дзяржава накладае так сама роўныя на ўсіх абавязкі. Можна толькі пажадаць, каб гэтую, запраўды ж першую, падставу дзяржаўнага сужыцьця людзей і народаў міністру ўдалося правесьці ў жыцьцё.

Міністар земляробства, сцьвярдзіўшы

далейшы спадак вывазу заграніцу прадуктаў польскага зямляробства, заявіў, што гаспадаром-зямляробам трэба быць прыгатаванымі на тое, што цана на прадукты сельскай гаспадаркі далей будзе стаяць у нас нізка. Міністар адначаў, што ўрад зрабіў ужо значныя палёгкі ў сплаце працэнтаў за пазыкі драбнейшых гаспадароў у банках (у нас іх, на жаль, ня шмат) ды мае далей весьці працу дапамогі дробнаму рольніцтву. Тольк-ж вось—на дапамогу трэба грошы, а грошы зьбіраюцца ў скарбе з падаткаў, якія плацяцца вельмі туга... Дык з гэтага фатальнага кола ўраду выйсьці цяжка...

**Прыпыненьне выкананьня закону аб зямельнай рэформе.** Урад мае падаць у Сойм праект закону аб прыпыненьні на бягучы год прымусовага выкупу абшарніцкіх маёнткаў — на зямельны фонд — на карысьць зямельнае рэформы. Урад матывуе гэтую меру недахватам грошаў у скарбе на выпаўненьне прадбачанага ў законе аб зямельнай рэформе штогодняга парцэляцыйнага пляну.

Рада Міністраў прыняла пастанову аб хутчэйшым прызнаньні поўных правоў уласнасьці на зямлю былых чыншавікоў, б. (вольных людзей) і даўгалетніх арандароў — у ваявод. навагр., віленск., палеск. і беластоцк.

## Заграніцай.

**Палажэньне ў Гішпаніі.** У Гішпаніі рэвалюцыйны рух ніяк ня можа перайсьці ў нармальны бег народна-дзяржаўнага жыцьця. З аднаго боку, прытаіўшыяся да часу рэакцыйныя сілы—ў войску і касьцёле насамперш—усьцяж рыхтуюць „адбудову старога парадку"; з другога боку, безадказныя правадыры цёмных, з'анархізаваных манархічным людам, народных масаў на чале з камуністамі за ўсялякую цаву хочуць выкарыстаць добры прыпадак, каб „паглыбіць рэвалюцыю". Нацыянальна-рэвалюцыйны ўрад робіць усе высілкі, каб утрымаць уладу і парадак, борючыся пакуль-што пасьпешна проці ворагаў дзяржавы і народу зьлева і справа.

**Гітлер і ўрад.** Раскол „жалезна адналітай партыі" Гітлера блізу ўжо стаўся фактам: ген. Шлейхер здабыў для ўраду найвыдатнейшага з правадыроў партыі—Штрасэра, спрытна пасварыўшы яго з Гітлерам, бо не Гітлеру, а Штрасэру запрапанаваў становішча віцэ-прэм'ера. Пад пагрозай далейшага расколу і грашовага банкруцтва партыі Гітлер адразу памягчэў, а абяцанка новых „крэдытаў" на партыю зробіць пэўне-ж Гітлера зусім мяккім... Дзеля гэтага скліканьне парляманту адкладзена на канец месяца. Аб уздыме „духу" сярод гітлераўцаў, у зьвязку з новымі „крэдытамі", кажа выразна страшэнна завастрыўшаяся барацьба іх байвак з камуністычнымі арганізацыямі. Асабліва вострыя і крывавыя сутычкі адбыліся ў апошнія дні ў Бэрліне, дзе ў бальніцы прывозяць па некалькі дзесяткоў раненых у дзень.

**Узнаўленьне пашпартоў у СССР.** Радавы ўрад пастанавіў узнавіць царскія пашпарты ў СССР. Як высьняецца, пашпарты аказаліся патрэбнымі ў першую чаргу на тое, каб „разгрузіць" 5 найвялікшых местаў СССР, у якіх набралася за часы апошняе галадухі на вёсцы вялізарная маса лішняга насяленьня. З аднае Масквы ўлады маюць—шляхам адмовы ў выдачы абавязкавага пашпарту—выселіць каля 1 міліёну людзей. Урад баіцца магчымасьці галодных бунтаў у вялікіх мястовых цэнтрах, асабліва ў Маскве—сядзібе ўлады, бо на зіму для гэтых местаў сабрана абмежаная колькасьць хлеба і іншых прадуктаў, якіх для сучасных жыхараў мест ня можа хапіць.

**Нячуваныя зьдзекі.** Яшчэ ўлетку йшлі глухія весткі аб масавым апоры розных казацкіх „войскаў" проці калгасных спробаў савецкага ўраду на іх зямлі. Аднак толькі цяпер сталася ведамым аб тых карах, якія налажыла бальшавіцкая ўлада на апорных казакоў. Апроч блізу 600 караў сьмерці, выкананых за апошнія месяцы ў адным толькі раёне кубанскага казацкага войска, выселена ў Сібір цэлае сяло Паўлаўска ў лічбе 2,000 сялей — „дзеля прыкладу іншым". А тым „іншым" улады заявілі, што ня спыняцца перад ссылкай у Сібір, ня гледзячы на нячуваныя маразы, ажно 50 вёсак і сёлаў кубанскіх казакоў, калі тыя будуць „сабатаваць" зямельную і збажовую палітыку Масквы. А ў амэрыканскай прэсе надрукавана пастанова камуністычных уладаў Растоўскага вокругу аб сасланьні ў Сібір усяго насяленьня трох вялікіх казачых станіцаў: Палтаўскай (?), Мядзьведзяўскай і Урюпівскай—з жанчынамі і дзяцьмі — ў Паўночны лясны раён Сібіры... Уся зямля іх канфіскуецца і перадаецца вэтэранам чырвонае арміі, якія маюць стварыць тутака „прыкладныя савецкія гаспадаркі" („совхозы"). Амэрыканскае агенцтва дадае, што па перапісі 1929 г. тры гэтыя багатыя калісьці станіцы налічвалі блізу 50.000 жыхараў...

**Японска-кітайская вайна.** Ваенная акцыя на Далёкім Усходзе крыху прыцішла. Абедзьве ваюючыя—без абвяшчэньня вайны — староны яўна падрыхтоўваюць сілы дзеля запраўднай вайны шырокім фронтам. Кітайцы сьцягваюць на граніцы Маньчжуры вялікія сілы, маючыся выкінуць японцаў з апошняе, а прынамся—не пусьціць далей у глыб Кітаю. Характэрна, што—пад пагрозай японскага заваяваньня — ізноў лучацца ў адно ўсе сілы народныя. Чырвоны Паўдзён—на чале з кантонскім урадам — паведаміў галаву нанкінскага ўраду Чанг-Кай-Шэка, што падтрымае ўсей сваей ваеннай сілай яго акцыю проці Японіі. Ва ўсім Кітаі расьце абурэньне проці Японіі. Такім чынам, разьлічаць на вельме „паразуменьне ў беспасярэдніх перагаворах Кітаю з Японіяй" няма ніякай падставы.

**Замах у сталіцы Маньчжуры.** 21 студня

кіненай бомбай забіты прэм'ер манчжурскага ўраду Чэн Сяо-Сю і цяжка ранены японскі пасол. Як бачым, улада, створаная гвалтам у „незалежнай дзяржаве" японцамі, не забясьпечана ад „водруху" з боку мясцовага насяленьня.

**Японія і СССР.** Японскі міністар замежн. спраў Ушыда ў сваей прамове ў парляманьце заявіў, што Японскі ўрад „з вялікай увагай і асьцярожнасьцяй адносіцца да ўраду СССР, каб ня выклікаць ніякага канфлікту і не папсаваць добрых адносінаў з магутным суседам". Але пачаць перагаворы з ім аб падпісаньні трактату аб узаемным ненападаньні японскі ўрад лічыць яшчэ перадчасным... Такім чынам, „асьцярожнасьць" Японіі адносна да СССР мае, як кій, два канцы...

## Цікаўныя і карысныя рэчы.

**Адзінства крыві.** Адзін галяндзкі вучоны аблічыў, што кожны чалавек мае радню, лічачы толькі 8 пакаленьняў узад, лікам ня менш, як 256 родзічаў. А на 30-тым пакаленьні лічба родзічаў даходзіць да мільёну. З гэтага відаць, што блізу ўсе мы, прынамся ўсе даўныя, адвечныя жыхары краю, — нясьведамыя краўнякі ці радня. Такім чынам, у аснове этнаграфічнае еднасьці, а далей і вышэйшых вязяў у культурна нацыянальнай лучнасьці народу ляжыць даўнейшае, чым далей у глыб мінуўшчыны, тым бліжэйшае і сільнейшае адзінства крыві. Гэта як быццам „матэматычна" даказана галяндзкім вучоным у яго падлічэньнях. Але ж кожны „чысты", адналіты народ вельмі добра адчувае гэтае падсьведама — сэрцам, захоўваючы гэтыя глыбокія прыродныя вязі і ў далейшым сваім разьвіцьці, і ў духовым поступе.

Гэта заўсёды ў даўныя часы разумеў народ беларускі, адзін з самых „чыстых", нямешаных народаў на сьвеце: галоўнае яго плямя так і называла сябе „крывічамі", што значыць — людзьмі аднае крыві. Але ж трэба сучасным беларусам добра зразумець, што голас адзінай, супольнай крыві абавязвае захаваць гэтае сьвятое адзінства і на далейшых ступенях разьвіцьця народу — грамадзкага, нацыянальнага, духовага. Дык трымайцеся-ж усе адзін за аднаго, беларусы-крывічы, бо ўсе вы сябры аднае вялікае сям'і, кроўна зьвязанай у дагістарычнай мінуўшчыне. Зьвязаныя крывёй, вяжэцеся сэрцам і духам. І тады ня згінеце ніколі, але ўскрэсьнеце няўхільна ў назначаны Богам час — як жывы, вольны і самастойны народ.

* * *

Аматар дзед — стары мароз,
На шкле акна маей каморы
З крышталу лёду — быццам сьлёз
Складаў прычудлівыя ўзоры.
То лісьці красак ледзяных
Вянкі чароўныя сплялалі,
У косках сонца залатых
Сваей красою чаравалі.
Малюнкі, поўныя красы,
Так выйшлі пышна-зухавата,
Як бы слуцкія паясы
Былі за ўзор сюды ўзяты.

Ю. Касьцюкевіч.

## Паштовая скрынка.

**Адміністрацыя „Роднага Краю"** атрымала падпісную плату ад наступных асоб: Антона Пальчэўскага—1 зл. 30 гр., Аляксанд. Мучынскага—3 зл. 50 гр., В. Санкевіча—1 зл., К. З. —2 зл. 50 гр., Іваноўскага—1 зл. 30 гр., Барысевіча—1 зл.

Гр. **Яну Шэйбану**, в. Ворокомшчына. Шкада, што ня прыехалі на нараду. Аб прычыне трэба было паведаміць раней: на прыезд выслалі-б грошы. Газэту „Родны Край" высылаем.

Гр. **Паўлу Асіповічу**, фальв. Манюшчына, пошта Беніца. Шчыра радуемся, што маеце магчымасьць весьці культурна-асьветную работу, як ладжаньне спэктакляў, лекцыяў і д. т. п. Таварыства Беларускай Асьветы якраз і мае заданьнем дапамогу ў такой працы на мясцох. „Слабыя матэр'яльныя варункі" — наша агульная і супольная бяда, ня толькі на мясцох, але і ў цэнтры. Але патрэбныя Вам сцэнічныя творы вышлем незабаве. Што датычыць грыма, дык — што будзе магчыма, зробім і тут. „Родны Край" высылаем. Напішаце, калі ласка, ці ёсьць магчымасць у вашай ваколіцы адчыніць бібліатэку-чытальню Т-ва Бел. Асьветы. Ці ёсьць адпаведны кіраўнік, памешканьне і т. д.

Гр. **К. Пэтэльскаму**, в. Крушыняны, пошта Галынка (каля Ваўкавыску). У свой час вышлем тое, аб чым просіце. Але трэба нам сьпярша дакладней даведацца аб Вас асабіста, аб мясцовых варунках, аб тым, якія ёсьць ці былі ў Вас арганізацыі беларускія і іншыя, хто мае кіраваць працай і т. д. Напішэце аб усім гэтым. Напішэце так сама, ці можна ў вашай ваколіцы залажыць бібліатэку-чытальню Т-ва Бел. Асьв.: ці ёсьць адпаведная асоба дзеля кіраўніцтва, памешканьне і т. д.

Гр. **Аляксандра Кадлубоўская.** №№ 1—3 „Родн. Краю" высылаем.

Гр. **Пант. Вакульчык.** Пісьмо Вашае праз кнігарню атрымалі. Часопіс „Р. К." высылаем.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22